


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!* Францішак БАГУШЭВІЧ

# НАША СЛОВА

№ 12(22) • 8—14 МАЯ 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



## КАБ ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА!

### ЗВАРОТ
### да народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў, да ўсіх грамадзян Беларускай ССР, да прыхільнікаў беларускага слова

Сёння зноў, як і дзесяць і пяцьдзесят гадоў назад, аснова культуры народа — нацыянальная мова — у небяспецы! Ва ўмовах прававога і нацыянальнага нігілізму, у выніку бяздзейнасці шэрагу дзяржаўных органаў кіравання, на фоне пагаршэння сацыяльна-эканамічнага становішча працоўных рэспублікі становішча беларускай мовы ў Беларусі не паляпшаецца, а ў пэўных сферах грамадскага жыцця нават пагаршаецца.

Палажэнні Закона аб мовах у Беларускай ССР, Дзяржаўнай праграмы яго ажыццяўлення, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, якія вызначаюць у якасці прыярытэтаў адраджэнне беларускай мовы, нацыянальнай культуры і дзяржаўнасці, не сталі законам і пуцяводнай зоркай у службовай дзейнасці кожнага дзяржаўнага служачага — ад міністра да настаўніка, інжынера, работніка ніжэйшага звяна дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання.

Народныя дэпутаты Беларускай ССР, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР і члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у пераважнай большасці не даюць прыкладу паважлівага стаўлення да беларускай мовы, хаця закон, прыняты парламентам, ёсць закон перш за ўсё для саміх заканадаўцаў.

Многія адказныя работнікі Пракуратуры БССР, Савета Міністраў, міністэрстваў і ведамстваў не выконваюць у дачыненні да дзяржаўнай мовы сваіх абавязкаў перад законам.

Далей так працягвацца не можа! Грунтуючыся на палажэннях Закона аб мовах у Беларускай ССР, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і зыходзячы з карэнных інтарэсаў беларускага народа, Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае вялікую заклапочанасць аднасінамі Вярхоўнага Савета БССР, урада рэспублікі і выканаўчых органаў улады на месцах да ажыццяўлення Закона аб мовах у Беларускай ССР.

Рэспубліканская Рада ТБМ заклікае ўсіх грамадзян Беларускай ССР паважаць, ахоўваць і развіваць духоўную спадчыну карэннага народа Беларусі, авалодваць беларускай мовай, далучацца да скарбаў беларускай культуры, спалучаючы тым самым свой доўг зямлі, якая была, ёсць і будзе нашым агульным домам, нашай Бацькаўшчынай.

Рэспубліканская Рада ТБМ звяртаецца да народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў з просьбай актыўна садзейнічаць ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР, помнячы, што беларусы, з'яўляючыся карэннай нацыяй нашай рэспублікі, тут і толькі тут могуць поўна і плённа рэалізаваць свой духоўны і культурны патэнцыял і таму маюць неад'емныя правы на прыярытэтнае развіццё ў сваім уласным доме нацыянальнай культуры і мовы, нацыянальнай школы і сістэмы інфармацыі.

Аднача́сова Рэспубліканская Рада ТБМ звяртаецца да ўсіх грамадскіх арганізацый рэспублікі, у тым ліку да палітычных партый і рухаў, а таксама да вернікаў усіх канфесій, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, паважліва ставіцца да беларускай мовы як мовы дзяржаўнай і ўсямерна спрыяць яе пашырэнню ў грамадскім жыцці рэспублікі.

Таварыства беларускай мовы прыхільна ставіцца да дзейнасці грамадзян Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей, накіраванай на развіццё ўласнай культуры, вітае адраджэнне іх нацыянальнай самасвядомасці і мовы.

Напярэдадні 2 з'езда Таварыства беларускай мовы, які адбудзецца ў Мінску 14—15 чэрвеня г.г., Рэспубліканская Рада звяртаецца да пісьменнікаў, журналістаў, работнікаў іншых сродкаў масавай інфармацыі шырока разгарнуць дыскусію на старонках перыядычнага друку, на радыё, тэлебачанні, актывізаваць грамадскасць і дзяржаўныя структуры ў дзейнасці па ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР, смела выяўляючы факты невыканання, ігнаравання або адыходу ад палажэнняў згаданага закона з боку адказных работнікаў усіх сфер дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання.

У павестку дня з'езда Таварыства беларускай мовы выносяцца пытанні, якія хвалююць шырокую грамадскасць, увесь народ Беларусі:

— Роля грамадскасці рэспублікі, ТБМ і іншых грамадска-культурных арганізацый у фарміраванні канцэпцыі развіцця культуры ў Беларусі, стварэння нацыянальнай школы і адраджэння беларускай мовы;

— Аналіз дзяржаўнай моўна-культурнай палітыкі ў Беларускай ССР, грамадскі кантроль за ходам ажыццяўлення Закона аб мовах у БССР;

— Удакладненне правапісу беларускай літаратурнай мовы.

У сувязі з тым, што ў складзе Таварыства беларускай мовы зарэгістравана 71 рэгіянальная арганізацыя, а толькі сельскіх раёнаў у рэспубліцы налічваецца 117, Рэспубліканская Рада ТБМ звяртаецца да прыхільнікаў беларускага слова ва ўсіх кутках Беларусі ў перыяд да з'езда ўтварыць ініцыятыўныя групы і, правёўшы ўстаноўчыя рэгіянальныя канферэнцыі ТБМ, вылучыць сваіх дэлегатаў на з'езд Таварыства і ў далейшым усямерна садзейнічаць вырашэнню яго статутных задач.

Няхай жыве і квітнее беларуская мова — гаспадыня ў сваім дзяржаўным доме, у Беларусі, і раўнапраўная сястра ў вялікай сям'і моў свету!

Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.
г. Мінск.

**Поступ тыдня**

## САЛІДАРНАСЦЬ З РЭДАКТАРАМ

У «Народнай газеце» надрукаваны пратэст супраць адміністрацыйна-валявога рашэння ЦК ЛКСМБ, які не зацвердзіў (а фактычна зняў з пасады) галоўнага рэдактара газеты «Знамя юности» Аляксандра Класкоўскага. Пратэст падпісалі: Васіль Быкаў, пісьменнік, народны дэпутат СССР; Анатоль Вярцінскі, паэт і журналіст, народны дэпутат БССР; Мікола Гіль, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва»; Валерый Дранчук, галоўны рэдактар часопіса «Родная прырода»; Сяргей Законнікаў, галоўны рэдактар часопіса «Полымя»; Сяргей Навумчык, журналіст, народны дэпутат БССР; Іосіф Сярэдзіч, галоўны рэдактар «Народнай газеты», народны дэпутат БССР; Аляксандр Шабалін, галоўны рэдактар часопіса «Беларусь».

Хаця «Знамя юности» і рускамоўная газета, беларускія дзеячы культуры і літаратуры аднымі з першых уключыліся ў абарону прагрэсіўнага выдання, якое актыўна змагалася з адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмай, падтрымлівала агульнадэмакратычны, нацыянальна-вызваленчы рух. Гэтым і выклікана атака ЦК ЛКСМБ супраць прынцыповага рэдактара газеты.

З матэрыяламі, у якіх асуджаецца валявое рашэнне ЦК камсамола рэспублікі, выступілі і некаторыя іншыя беларускія газеты.

*Калектыў рэдакцыі часопіса «Полацак» сардэчна віншуе ўсіх супрацоўнікаў, аўтараў і чытачоў газеты «Наша слова» са святам друку!*

*Вашыя высакародныя ідэі ніколі «не разбіць, не спыніць, не стрымаць!»*

*Жыве Беларусь!*

З павагай Святлана БЕЛАЯ, Клiўленд.

## ЯШЧЭ 30 ПАДПІСЧЫКАЎ НА «НАША СЛОВА»!

30 вучняў старэйшых класаў сярэдняй школы № 10 г. Мінска па даручэнню сваіх бацькоў падпісаліся на «Наша слова». У гэтым немалая заслуга настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Дзіны Мікалаеўны Макарэвіч. Вопытны педагог, яна больш за 30 гадоў дапамагае сваім выхаванцам авалодваць роднай мовай і багаццямі нацыянальнай культуры. Акрамя таго, Дзіна Мікалаеўна — кіраўнік метадычнага аб'яднання настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Партызанскага раёна г. Мінска, грамадскі метадыст. Пажадаем ёй і надалей поспехаў у працы на карысць Бацькаўшчыны.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.



Роздум...

*Васіль Супрун правёў 10 гадоў у сталінскіх лагерах толькі за тое, што, ратуючыся ад вывазу ў Нямеччыну, вучыўся ў Слонімскай семінарыі і пісаў вершы. «Паэзія была крыкам маёй душы, маім болем і пачуццём», — піша ён у сваёй аўтабіяграфіі. Верш «Благанне» напісаны ў Інце — суровым шахцёрскім краі, дзе ў здзеках і пакутах прайшла маладосць паэта.*

*Васіль СУПРУН*

## БЛАГАННЕ*

Божа адзіны, святы і магутны!
Край наш ад здзекаў, бяды заслані,
Люд беларускі нявольны, пакутны,
Воляй святою да шчасця вярні.

Дай нам магутнасць, адзінства і сілы,
Каб адрадзіць і падняць Беларусь,
Што зацкаванай, ля самай магілы
Змоўкла стаіць, б'е паклоны камусь.

Шчырасцю сэрцаў і розуму ўзмахам,
Верай і дзеяннем нашым кіруй;
Воляй чаканай змяні злыдняў плаху
Грэх наш, о, Божа, благаем, даруй!

Інта, 1950 г.

* Просьба, маленне

## Пытанне — адказ

*ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!*

*Ні для каго не сакрэт, што ў беларускай мове шмат скажоных назваў гарадоў, такіх,як Менск, Гародня, Бярэсце, Наваградак і інш. Замянілі іх нейкімі сурагатнымі, утворанымі на аснове «трасянкі» з суседніх моў (Мінск, Гродна, Брэст, Навагрудак і інш.).*

*Справа «Нашага слова» — спрыяць адраджэнню беларускай культуры, душы нашага народа. Але ж і нацыянальныя назвы — таксама наша духоўная спадчына, наша культура. Дык, можа, рэдакцыі трэба пачаць з сябе? Ужываць у матэрыялах газеты БЕЛАРУСКІЯ геаграфічныя назвы?*

*Растлумачце, калі ласка, вашу пазіцыю.*

З павагай, Севярын **КВЯТКОЎСКІ.**

Падзяляем клопат Севярына Квяткоўскага, бо таксама лічым, што многія беларускія геаграфічныя найменні ў пэўны час былі беспадстаўна скажоныя або заменены на новыя. Спадзяёмся, што Тапанімічная камісія, створаная пры Вярхоўным Савеце БССР, адновіць спрадвечныя гістарычныя назвы. Але пакуль пытанне не вырашана заканадаўчым органам улады, наша газета прытрымліваецца афіцыйных нормаў сучаснай беларускай мовы.

Не губляючы часу, рыхтуем сваіх чытачоў да змен на геаграфічнай карце Беларусі: у рубрыцы «Людзі кажуць» змяшчаем паданні аб найменнях, мяркуем друкаваць па тапаніміі матэрыялы вучоных, творы пісьменнікаў і дасланыя ў рэдакцыю лісты.

Думаем, сугучны з нашай пазіцыяй вядомы чытачам верш Ніла Гілевіча «У родным горадзе»:

Хаджу па вуліцы Грамілы,
Што цягам доўгіх страшных год
Граміў і плюндрыў, колькі сілы,
Усё, чым славен наш народ.

А ты, мой прашчур, творца мудры,
Чыя магіла дзесьці ў тундры, —
Твайго забытага імя
У родным горадзе няма.

Хаджу па вуліцы Няздары,
Што меў і здольнасці аднак:
Пакуль народ аб шчасці марыў —
Ён краў з казны і жыў усмак.

А ты, мой продак ясначолы,
Чый дар народу — незлічоны, —
Твайго забытага імя
У родным горадзе няма.

Хаджу па плошчы Баязлівца,
Што меў за Бога вечны страх —
Каб толькі з крэсла не зваліцца
І не разбіў кар'еру ў прах.

А ты, мой продак, вой бясстрашны,
У Курапацкім доле спрахлы, —
Твайго забытага імя
У родным горадзе няма.



## Дзе набыць «Беларускую крыніцу»?

*У рэдакцыю звярнуўся Іван Драўніцкі з вёскі Камарова Мядзельскага раёна з наступнымі словамі: «Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты «Наша слова». У шостым нумары я прачытаў, што ўзнавіўся выхад «Беларускай крыніцы». Я вельмі хацеў бы яе атрымліваць. Парайце, калі ласка, як вясковаму жыхару яе набываць?*

*Мне вельмі няцерпіцца прачытаць 1-шы нумар з тае прычыны, што Казімір Сваяк — настаўнік майго бацькі. Я збіраю пра Сваяка матэрыялы, лістуюся з ягонымі родзічамі ў ПНР».*

*Наш карэспандэнт паказаў гэты ліст рэдактару газеты «Беларуская крыніца» Алесю Траяноўскаму, які праз «Наша слова» звярнуўся да чытача.*

**ШАНОЎНЫ ІВАН ПЯТРОВІЧ!**

**Вельмі рады, што Вас зацікавіла газета «Беларуская крыніца». На жаль, па падпісцы яе пакуль што не распаўсюджваюць. Газету можна набыць у кіёсках «Саюздруку» і ў кіёску Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, які знаходзіцца ў Мінску па Ленінскім праспекце насупраць ГУМа. Пакуль што газета выходзіць адзін раз на месяц. Кошт нумароў ад 50 да 60 капеек.**

**Наша газета прытрымліваецца хрысціянска-дэмакратычнай арыентацыі. Мы і надалей мяркуем друкаваць матэрыялы гэтага напрамку, пра жыццё і дзейнасць вядомых дзеячаў хрысціянска-дэмакратычнага руху на Беларусі.**

З павагай
Алесь **ТРАЯНОЎСКІ.**

## *«Тарашкевіца»? «Наркомаўка»? «Скарыніца»?..*

## Навошта марудзіць?

Шаноўныя спадары! Пішу да вас упершыню, каб падзяліцца сваімі думкамі пра лёс беларускай мовы.

На Беларусі я быў двойчы, і кожны раз імкнуўся зразумець, чаму там не размаўляюць па-беларуску. Мала таго, што не размаўляюць, а і не надта ласкава глядзяць ў твой бок, калі асмелішся звярнуцца «па-вясковаму». Пра гэта шмат пісалася і ў вашай газеце, і ў «Літаратуры і мастацтве». Зрухаў, на жаль, няма. І ўсё часцей прыходжу да думкі, што (прабачце за шчырасць) не хопіць моцы мове, каб адрадзіцца. Дзе яна, сапраўдная беларуская мова? Толькі ў нефармальнай газеце «Свабода», у нейкай ступені ў вашай ды штотыднёвіку «ЛіМ». Чаму «ў нейкай ступені»? Мяркую, пагодзіцеся — без сапраўднага правапісу мова знаходзіцца ў паўлеглым становішчы. Я чытаў адзін і той жа тэкст «па-наркомаўску» і «па-тарашкевіцку» сваім сябрам, якія ніякага дачынення да беларускай мовы (жывём у Расіі) не маюць. Як жа яны былі здзіўлены тымі зменамі пад час чытання. Запыталіся, навошта было патрэбна мяняць мову ў горшы бок? Я таксама цікаўлюся гэтай праблемай. Нават выгляд тэкстаў, напісаных «наркомаўкай» і «тарашкевіцай», істотна адрозніваецца ў карысць другой.

Дык навошта марудзіць? Па-мойму, даўно ўжо надышоў час вярнуць правільны правапіс дзеля звычайнай справядлівасці. Мову абвінавацілі ў шмат якіх грахах, пакаралі рэформай 1933 года. Сёння — час рэабілітацыі. Дзякуй Богу, многіх людзей рэабілітавалі. А пра беларускую мову забыліся... А час ідзе. І чым далей — тым становішча будзе пагаршацца.

Шчыра жадаю вам плёну ў нялёгкай барацьбе за беларушчыну. Жыве Беларусь! Жыве беларуская мова!

Аляксандр **КАЙСІН,**
настаўнік.
г. Адышава.

# ТРЫ ДНІ Ў АДАЛАЙДЗЕ

*На пачатку года ў горадзе Адалайдзе (Паўднёвая Аўстралія) адбылася 9-я сустрэча беларусаў Аўстраліі. Чытачам прапануем пазнаёміцца з рэзалюцыяй сустрэчы і нататкамі ўдзельніка форуму Паўлюка Дуброўскага.*

## Рэзалюцыя 9-й сустрэчы беларусаў Аўстраліі

Мы, удзельнікі 9-й сустрэчы беларусаў Аўстраліі, якія з'ехаліся з усёй Аўстраліі, заслухаўшы прывітанні ад грамадскіх і духоўных арганізацый, пастанавілі:

1. Рабіць захады, каб аўстралійскія дзяржаўныя і прыватныя сектары аказалі гуманітарную дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі. Імкнуцца адраджаць нацыянальную культуру, хрысціянскую мараль і агульначалавечыя вартасці.
2. Падтрымліваць і далей дзейнасць Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне», скіраваную на ратаванне беларускай нацыі.
3. Звярнуцца з просьбай ад імя беларускіх арганізацый у Аўстраліі, каб былі прыняты квоты імігрантаў з ліку жыхароў найбольш заражоных мясцовасцей чарнобыльскай зоны Беларусі.
4. Спрыяць пашырэнню дыпламатычных сувязяў Аўстраліі з Беларускай рэспублікай, Вярхоўны Савет якое абвясціў 27-га лістапада 1990 года Беларусь суверэннай дзяржаваю.
5. Мы падтрымліваем ініцыятыву аргкамітэта «Бацькаўшчына» ў Мінску дзеля аб'яднання ўсяго беларускага народа, дзеля палітычнага і эканамічнага суверэнітэту Беларусі.
6. Мы вітаем намаганні беларускага грамадства, скіраваныя на рэалізацыю Закона аб дзяржаўнасці беларускае мовы, які дзейнічае з 1-га верасня 1990 года.
7. Мы выказваем непакой з прычыны нарастання на Беласточчыне антыбеларускай акцыі, якая выяўляецца ў хлуслівай кампаніі прэсы ды ў паленні цэркваў і нішчэнні помнікаў беларускай культуры.

Пацвярджаючы ўсё вышэй сказанае, удзельнікі 9-й сустрэчы беларусаў Аўстраліі разам з беларусамі на ўсім вольным свеце заяўляюць, што галоўнай нашай мэтай ёсць дасягненне **СВАБОДЫ І НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ.**

**Старшыня прэзідыума 9-й сустрэчы федэральнай Рады беларускіх арганізацый Аўстраліі спадар Уладзімір СІДЛЯРЭВІЧ,**
**Сакратар прэзідыума спадар Паўла ГУЗ.**

Акурат на праваслаўныя Каляды — Куццю з усіх куткоў Аўстраліі беларусы сталі з'язджацца ў сонечны горад Адалайд. Дзякуючы старшыні тамтэйшай арганізацыі «Беларускае аб'яднанне» спадару М. Колесу, а. Міхаілу, святару юрысдыкцыі Уладыку Ізяславу, намесніку старшыні федэральнай Рады ў Паўднёвай Аўстраліі спадару Я. Аршанскаму ўсе госці былі належна закватараваныя і абагрэтыя шчырай беларускай гасціннасцю.

У першы дзень сустрэчы ў мясцовай Беларускай царкве св. апосталаў Пятра і Паўла айцец Міхаіл адслужыў калядную літургію. Дзякуючы добрым спевам хору пад кіраўніцтвам К. Калесніковіча настрой і бадзёрасць у беларусаў узняліся.

Кожны, хто прыехаў на 9-ю сустрэчу беларусаў Аўстраліі, пачуваў сябе сярод сваіх і блізкіх па крыві суродзічаў. Людзі ад радасці са слязамі на вачах віталіся, цалаваліся, знаёміліся. Пасля каляднай службы, а чацвёртай гадзіне, у вялікай зале, упрыгожанай беларускімі і аўстралійскімі сцягамі, вышыванымі абрусамі і красуняй Пагоняю, адбылося адкрыццё сустрэчы.

Прысутныя павіталі гасцей з Бацькаўшчыны: у Адалайдзе да спадарыні Краўчанкі прыехаў з Віцебска пляменнік і да спадароў Грушаў — госця з Салігорска.

Сустрэчу адкрыў М. Колес, прывітаўшы гасцей, духавенства і ўсю грамаду. Затым ён перадаў слова старшыні федэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі спадару Грушу, які выступіў з патрыятычнай прамовай. Перад прысутнымі таксама выступілі спадары сакратар федэральнай Рады П. Гуз, прэзідэнт БЦР М. Зуй, прадстаўнік БНР М. Нікан. Быў зачытаны ліст ад згуртавання беларусаў «Бацькаўшчына», падпісаны міністрам замежных спраў Беларусі П. Краўчанкам. Рэферат пра Максіма Багдановіча прачытаў М. Лужынскі.

Пасля ўрачыстай часткі ўсімі аматарскімі сіламі была наладжана мастацкая частка пад кіраўніцтвам матушкі Вольгі Бурнос і айца Міхаіла. Са сцэны гучалі песні «Не пагаснуць зоркі ў небе», «Ой, думаю я», «Не за вочы чорныя», «Знай, што ты беларус», «Красавала жыта». Спяваў хор з Адалайды пад акампанемент М. Кандрусіка.

У хоры «Каліна» з Мельбурна спяваюць маладыя дзяўчаты ў нацыянальных строях. Яны заўсёды бяруць удзел у розных імпрэзах. Выпусцілі некалькі касетных альбомаў з беларускімі народнымі песнямі. Гэтым разам яны праспявалі «З Новым годам, землякі», «Хлопец пашаньку пахае», «Ручнікі», «Як хацела мяне маці ды за п'янага аддаці».

«Песню аб Радзіме» выканалі маці і дачка Галя і Ляра Кандрусікі. Несціхотныя воплескі заслужыў А. Груша, які прачытаў са сцэны верш «Прарок» Янкі Купалы. Па-майстэрску смяшыў усіх рознымі народнымі казкамі канферансье М. Лужынскі. На заканчэнне канцэрта ўся зала разам з артыстамі праспявала «Магутны Божа».

Пасля мастацкай часткі ў гэтай жа зале пад добрую музыку ды смачныя закускі і напоі беларусы бавіліся да позняй ночы.

Другі дзень сустрэчы прайшоў у цудоўным месцы — гарадскім батанічным парку. У памяці засталіся музыка, песні, весялосць.

На трэці дзень Каляд а дзевятай гадзіне раніцы ў прыцаркоўнай зале святых апосталаў Пятра і Паўла сабраліся дэлегаты ўсіх дзесяці дэлегатаў беларускіх арганізацый.

Затым пачалася нарада. Былі абраныя старшыня прэзідыума, сакратар. Кожная арганізацыя праз свайго прадстаўніка здала справаздачу за двухгадовую дзейнасць. Апошнім часам галоўная работа беларускіх арганізацый была звязана з дапамогаю ахвярам Чарнобыля. Беларусы сабралі досыць ладную колькасць грошай, закупілі 30 000 аднаразовых шпрыцаў, дзіцячае харчаванне, вітаміны. Была абраная Управа федэральнай Рады.

На развітальным пачастунку была прынятая Рэзалюцыя 9-й сустрэчы і план працы з адспяваннем нацыянальнага гімна. Пасля айцец Міхаіл блаславіў сталы са смачнымі беларускімі стравамі.

*Развіталіся і пакідалі гасцінную* Адалайду з надзеяю, што наступным разам спаткаемся ў Мельбурне. Таксама пастанавілі запрасіць народнага дэпутата з Бацькаўшчыны спадара Г. Грушавога.

Усе раз'язджаліся дамоў, думаючы пра той дзень, калі Беларусь будзе вольнай і заможнай дзяржаваю. Хай дапамагае нам Бог.

Удзельнік 9-й сустрэчы ў Адалайдзе Паўлюк **ДУБРОЎСКІ.**

*Гістарычны нарыс*

# БЕЛАРУСЬ ПАСЛЯ

(Заканчэнне.
Пачатак у № 11).

Як пісаў адзін з польскіх дзеячаў да Калантая: «Пад расійскай уладай нам (палякам) адкрываюцца добрыя ўмовы. Разам з тым арганізацыя ў выбары здольных палякаў на месцы настаўнікаў зробіць тое, на што толькі можна спадзявацца ў даным выпадку».

І сапраўды, такія спрыяльныя ўмовы палякі выкарысталі поўнасцю. Першарадную ролю выканаў Віленскі універсітэт, які стаўся цэнтрам паланізацыі сярэдняй і дробнай шляхты, бо магнаты былі ўжо спаланізаваны даўно. Па-другое, у мурах Віленскага універсітэта гуртаваліся нелегальныя польскія рэвалюцыйныя арганізацыі супраць пануючай царскай сістэмы.

З Віленскага універсітэта пачалі выходзіць і піянеры беларускага нацыянальнага руху, пачала выходзіць ідэя аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага як дзяржавы, незалежнай ад Расіі і Польшчы. Вядомы юрыст прафесар І. Даніловіч парупіўся апрацаваць так званы «Западный Свод Законов» на аснове Літоўскага Статута, які меў быць кодэксам для Беларусі.

Хоць Віленскі універсітэт заложылі палякі, а сярод іх апалячаныя беларусы, аднак беларуская справа ў ім з кожным годам набірала важнасці і папулярнасці. І каб пратрываў ён яшчэ дэкаду, ёсць верагодным, што Беларусь мела б шансы знайсці ў ім свой голас, дзякуючы свабоднаму праяўленню думак.

Па-за Віленскім універсітэтам не было на Беларусі ніякай вышэйшай школы. Толькі ў 1840 годзе ў Горках была адкрыта Горы-Горацкая землянробчая школа, якая ў 1848 годзе павышана да годнасці інстытута. Быў гэта першы на Беларусі і нават у Расіі сельскагаспадарчы інстытут. Існаваў ён толькі да 1863 года і быў закрыты за ўдзел яго студэнтаў у паўстанні Каліноўскага.

Як ужо згадвалася, у мурах Віленскага універсітэта кавалася нацыянальная свядомасць не толькі палякаў, але і беларусаў, якіх было там нямала. Яны, як ніколі раней, зацікавіліся гісторыяй і культурай свае Белае Русі і падрыхтоўвалі на будучыню грунт для нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення. Сярод студэнцкіх арганізацый філаматаў, філарэтаў, шубраўцаў былі выхадцы з Беларусі: Адам Міцкевіч з Навагрудчыны, Тамаш Зан з Міншчыны, Антон Адынец з Ашмяншчыны, Ян Чарот з Навагрудчыны і другія. Яны збіралі беларускі фальклор і ў сваіх творах успаміналі Беларусь.

У гэтым часе беларускі народ быў добра вядомы. Ён выступаў, як адналітая грамада, якая гутарыла адной мовай. Зацікаўленне беларускім краем было пашырана настолькі, што нават некаторыя польскія прафесары Віленскага універсітэта памагалі беларускаму археолагу І. Грыгаровічу збіраць матэрыялы для ягонага выдання «Белорусский архив древних актов». Работу Грыгаровіча прадаўжаў Ігнат Даніловіч.

Амаль усе факультэты ў Віленскім універсітэце займалі выдатныя прафесары, людзі прагрэсіўныя, якія любілі свабоду і бацькаўшчыну. Таму Віленскі універсітэт аказаўся цэнтрам адраджэння зямель Вялікага Княства Літоўскага. Гэтае адраджэнне прывяло да польскага паўстання з мэтай устанавіць сваю незалежнасць. Агульна гаварылася аб адраджэнні ВКЛ, выдаваліся ўлёткі нават на беларускай мове, а ў сапраўднасці студзеньскае паўстанне (1830—1831) праходзіла пад лозунгам аднаўлення старой Рэчы Паспалітай з 1772 года.

Пасля падаўлення студзеньскага паўстання, палякі страцілі прывілеі, якія даў ім Аляксандр І. Зачынены Віленскі універсітэт, пакінута толькі медыцынская акадэмія і ветэрынарнае аддзяленне, выведзены з жыцця законы Статута ВКЛ, а ўведзены ў 1832 годзе статут, паводле якога Польскае Каралеўства інкарпаравалася ў склад Расіі і прыняло

# ПАД КРЫЛОМ БЕЛАРУСКАГА СЛОВА

**Так хочацца хоць раз паслухаць вас усіх,**
**Так хочацца хоць раз зірнуць у вашы душы...**



Памятаю, як нечакана было пачуць гэтыя словы не з вуснаў іх аўтара і нязменнага выканаўцы Сержука Сокалава-Воюша. А тут — тыя ж пераборы гітары, але голас жаночы, чысты, знаёмы і незнаёмы адначасна... Так аднойчы на адным з пасяджэнняў літаратурнага аб'яднання «Крыніцы» мы і даведаліся, што наша даўняя сяброўка Людміла Касьянава мае гэтакі талент не толькі выканаўцы, але і аўтара песень уласных, напісаных на вершы наваполацкіх паэтаў. Тады і загучалі ў яе выкананні Алесь Аркуш і Лявон Баршчэўскі, Валянціна Аксак і аўтар гэтых радкоў.

Так ужо неяк павялося, што ходзіць-ходзіць чалавек на «Крыніцы» нібыта проста паслухаць, прыняць удзел у абмеркаванні, а потым асмеліцца і падасць свой творчы голас. Так было з Валянцінай Аксак, Вінцэсем Мудровым, Лерай Сом і вось цяпер — з Людмілай Касьянавай.

Пазней Людміла прызналася, што песні пачала пісаць яшчэ ў школьныя гады. Нават старую магнітафонную стужку дала паслухаць з тымі першымі песнямі, досыць сімпатычнымі, дарэчы. Потым было маўчанне, былі інстытут і работа культработніка, стварэнне ўласнай сям'і і нараджэнне дачкі Люсенькі. І быў прыезд на Беларусь, на радзіму бацькі, якога лёс вайскоўца ўвесь час кідаў па розных кутках краіны. Людміла Уладзіміраўна Касьянава нарадзілася ў Маскве, потым шмат павандравала па гарадах і гарнізонах.

Памятаю, як адна экзальтаваная асоба вельмі ўжо скептычна адгукалася аб цікавасці Касьянавай да беларускіх песень: маўляў, не па-сапраўднаму ў яе ўсё гэта, надта ўжо доўга яна жыла іншым... Ды і мы, яе больш блізкія таварышы, шчыра прызнацца, былі проста ўдзячныя ёй за спробу зацікавіцца нашымі справамі, дапамагчы і не вельмі ўскладалі надзеі на яе больш пільную ўвагу да нашых праблем. І да гэтага былі падставы, бо колькі даводзілася бачыць людзей, якія актыўна гавораць пра сваю прыхільнасць да беларускага слова, у той жа час не дужа абцяжарваюць сябе хаця б хвілінай размовы на мове народа.

Не стану сцвярджаць, што пабеларуску Касьянава размаўляе дасканала: ёсць і лёгкі акцэнт, і слоўнікавы запас яшчэ не вельмі багаты. Але, далібог, загаварылі б так хаця б тыя, каму гэта неабходна: культработнікі і некаторыя настаўнікі, супрацоўнікі дзяржаўных устаноў і кіраўнікі прадпрыемстваў, журналісты і народныя дэпутаты!..

Але я захапіўся. І не толькі тое, што Касьянава вывучыла мову, пацягнула мяне на гэтыя радкі. Людміла Уладзіміраўна працуе ў гарадскім аддзеле культуры. Не без яе ўвагі і ўдзелу ў рэпертуары нашых мастацкіх калектываў стаў з'яўляцца беларускі фальклор, загучала роднае слова ў выступленнях рок-музыкантаў, на гарадскіх масавых святах, урачыстых вечарах. Не раз яна выручала многіх энтузіястаў, якія не шкадуюць ні сіл, ні часу для вялікай справы адраджэння духоўнай спадчыны беларускага народа.

Яна вельмі баялася першых сустрэч з гледачамі. І, памятаю, колькі намаганняў давялося прыкласці, каб угаварыць яе выступіць на абласным тэлебачанні. Цяпер, спадзяюся, прыхільнікаў яе творчасці ўжо даволі багата. Мне здаецца, што яны здолелі ўбачыць тое лепшае, што вызначае Касьянаву — выканаўцу і аўтара.

У апошні час нас часта запрашаюць выступаць разам. І я заўсёды з прыемнасцю чакаю, калі загучаць акорды гітары і знаёмы голас. І пальецца песня, і залунае пад гукі музыкі беларускае слова, пад гаючым крылом якога ёсць і яе месца, нашага таварыша і сябра — Людмілы Касьянавай.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,**
**г. Наваполацк.**

На здымку: спявае Людміла Касьянава.

# З ЛІХТАРОМ ПРАЎДЫ




**Сёлета ў красавіку нашаму шаноўнаму гісторыку спадару Міколу Ермаловічу споўнілася 70 гадоў. Беларускія выдаўцы зрабілі яму добры падарунак: амаль адначасова выпусцілі дзве ягоныя кнігі — «Старажытная Беларусь» (выд. «Мастацкая літаратура») і «Па слядах аднаго міфа» (выд. «Навука і тэхніка»). Кнігі знайшлі дарогу да чытача пасля двух дзесяцігоддзяў забароны іх ідэолагамі сваёй гадоўлі, пасля двух дзесяцігоддзяў аплёўвання і цкавання афіцыёзнай навукай. Ці не ўпершыню за апошнія 60 гадоў мы маем магчымасць чытаць праўдзівую гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, напісаную нацыянальна свядомым беларусам.**

**Прафесар Анатоль Грыцкевіч, прадстаўляючы М. Ермаловіча на сустрэчах з грамадскасцю, любіў паўтараць, што калі б вучоная годнасць надавалася ў нас за веды, за сапраўдны ўклад у гістарычную навуку, дык Мікола Ермаловіч ужо даўно быў бы акадэмікам. Але наша жорсткая рэчаіснасць — суровае выпрабаванне для сумленнага гісторыка. Як адзначаецца ў пасляслоўі навуковага рэдактара да кнігі «Па слядах аднаго міфа», трапна названым «З ліхтаром праўды», М. Ермаловічу не раз прапаноўвалі спыніць «свои писания». «Жаль, что я тебя тогда не знал», — сказаў яму адзін з супрацоўнікаў адпаведных органаў, пашкадаваўшы, што цяпер не 37-ы год.**

**Спачуваю нашым чытачам, якія не змаглі набыць «Старажытную Беларусь». Кнігу ж «Па слядах аднаго міфа» яшчэ можна купіць (яна выйшла пазней). Гэта ўжо другое выданне, папраўленае і дапоўненае, з цікавымі, арыгінальнымі ілюстрацыямі. Нагадаю, што гэтая кніга (першае выданне) перамагла летась у хіт-парадзе «10 лепшых кніг года» папулярнага юнацкага часопіса «Крыніца».**

**Паздароў жа, Божа, нашага дарагога дзядзьку Міколу, каб ён і надалей упэўнена нёс ліхтар гістарычнае праўды!**

**А. ЗМІТРОВІЧ.**

*Калектыў рэдакцыі газеты «Наша слова» і яе чытачы віншуюць Мікалая Іванавіча Ермаловіча з 70-годдзем з дня нараджэння.*

*Уладзімір Пецюкевіч*

## Максімава крыніца

У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады...

Максім Багдановіч

**Ад крыніцы Максімавай,**
**Ад гаючай вады**
**Я іду ў далеч сінюю**
**Праз нямыя асіннікі,**
**Праз сухія брады.**

**Сэрца «Зоркай Венераю»**
**Летуценна гарыць —**
**Спадзяваннем і вераю:**
**Дзеці блудныя вернуцца**
**Да бацькоўскіх крыніц...**

**А ўпаду я, знясілены**
**Ад людской глухаты,**
**Беларусь, занясі мяне**
**Да крыніцы Максімавай,**
**Да гаючай вады.**

# ПАДЗЕЛУ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

назву «Прывіслянскі край». Як працяг свае імперыялістычнай палітыкі, указам ад 18 чэрвеня 1840 года Мікалай I (1825—1855) забараніў ужываць тэрмін «Беларусь», а быў прыняты новы тэрмін — «Северо-Западный край».

Цар Мікалай I назначыў новага міністра асветы Уварава. У паняцці гэтага міністра прадметы геаграфіі і сучаснай гісторыі з'яўляліся небяспечнымі для моладзі. Ён казаў: «Чым людзі менш знаюць, тым лягчэй імі кіраваць». Увараў быў першым, хто пачаў уводзіць расійскую мову на заграбленай тэрыторыі з мэтай асіміляваць нацыянальныя меншасці.

Трыццаць гадоў царавання Мікалая I адзначаюцца мілітарызмам, праследам свабоды, упадкам асветы, інтэлектуальным застоем у розных галінах асветы, культуры і цывілізацыі. Мікалай любіў гаварыць: «Мне не патрэбны разумныя, мне патрэбны паслушныя і верныя падданыя», і такімі людзьмі ён сябе акружаў. Гэта цёмная старонка ў гісторыі Расіі, а на Беларусі яна была яшчэ цямнейшая.

Польскія дзеячы тае пары, як некаторыя і цяпер, уважалі і ўважаюць, што Беларусь з'яўляецца састаўной часткай Польшчы і яна павінна ўвайсці ў яе склад, калі Польшча атрымае незалежнасць.

У адказ на такі польскі падыход да Беларусі, з расійскага лагера таксама пачынаюць адзывацца галасы яе ўраджэнцаў. Шпілеўскі, Кушын, Эгілеўскі і другія сабралі і апублікавалі даволі многа цікавага матэрыялу аб Беларусі. Але, як супрацьдзейнік польскім сцверджанням, прызнаюць Беларусь за «русский край». Усё ж людзі гэтыя праявілі вялікую цікавасць да беларускай традыцыйнай культуры, мовы, гісторыі і помнікаў пісьменнасці.

Такім парадкам узрастала зацікаўленне тэматыкай Беларусі з боку навуковых, грамадскіх і палітычных кругоў польскіх і расійскіх навукоўцаў. Людзей гэтых цікавіла ранняя гісторыя беларускага народа. Ужо ў часе напалеонаўскай вайны 1812 года царскі афіцэр Канстанцін Каляйдовіч наведаў Беларусь. Ён зацікавіўся культурнай спадчынай беларускага народа і пасля вайны збіраў і вывучаў старажытныя выданні. Запазнаўшыся з багаццем беларускай культуры, Каляйдовіч звярнуў увагу вучоных свету на важнасць і неабходнасць даследавання беларускай мовы, якая ў той час, як ён асабіста пераканаўся, мела шырокае распаўсюджанне.

Так, беларуская мова мела ў той час шырокае распаўсюджанне, аб чым гаварыў у Парыжы Адам Міцкевіч, што на беларускай мове гаворыць 10 мільёнаў. Была гэта мова ў свой час дзяржаўная, але яе суседзі, палякі і рускія, адабралі ад яе гэтае права, замяніўшы сваёй мовай. Беларуская мова засталася жыць толькі пад саламянай страхой гаротнага беларускага селяніна. Дзе-нідзе нехта пісаў вершы. Былі гэта скромныя пачаткі адраджэння беларускай культуры, аднак народныя масы спалі, не цікавіліся палітычным жыццём, бо ж беларускія магнаты і інтэлігенцыя, калі не перайшлі ў польскі, дык у расійскі лагер. Аб гэтым перыядзе часу піша малады расійскі рэвалюцыянердэмакрат Мікалай Дабралюбаў у «Современнике» ў 1860 годзе, дзе выказаў такую характарыстыку аб беларусах: «Адносна беларускага селяніна справа ўжо вырашана: забіты канчаткова, так што нават пазбавіўся выкарыстання чалавечых здольнасцей. Не ведаем, у якой ступені памылковае гэтае меркаванне, таму што не вывучалі спецыяльна беларускага краю, але паверыць яму, зразумела, не можам. Цэлы народ так вось узялі і забілі,— як бы не так!.. Ва ўсякім разе, пытанне аб характарыстыцы беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў».

Тут трэба сказаць, што беларускі селянін не быў у той час «забіты канчаткова». Доўга не прыйшлося чакаць, як у 1863 годзе ён збройна паўстаў супраць царскага самадзяржаўя. Лідэр паўстання Кастусь Каліноўскі абудзіў, раскатурхаў і падняў сялянскую масу да збройнага чыну. Ён пакладаў вялікую надзею якраз на беларускага селяніна-мужыка, які ў барацьбе з царызмам і панамі адвае незалежнасць Беларусі.

Аднак, калі мы возьмем пад развагу ўсе тагачасныя палітычныя абставіны і ўдзел у іх беларускага селяніна-мужыка, дык, каб нават паўстанне Каліноўскага закончылася перамогай, не сказана яшчэ, што беларус атрымаў бы права на сваю не толькі дзяржаўную незалежнасць, але скромную аўтаномію. Больш верагодна, што ён як быў, так і застаўся б польскім парабкам. Паўстанні 1794 года, 1830—1831 і 1863—1864 гадоў вяліся пад інспірацыяй польскай магнатэрыі. Хоць некаторыя іх кіраўнікі, як Якуб Ясінскі, Кастусь Каліноўскі і іншыя, мелі на мэце аднавіць Вялікае Княства Літоўскае, але палітыка палякаў да народаў ВКЛ засталася нязменнай. Толькі дзеля прапаганды, каб зайграць на нацыянальных пачуццях і пацягнуць народныя масы да паўстання 1863 года, выдана была палякамі адозва, у якой гаварылася: «...братнім народам Літвы і Русі, злучаным з Польшчай, памыснага развіцця іх нацыянальнасцей і іх мову». Гэта ўсё, што абяцала Варшава народам былога Вялікага Княства Літоўскага.

Палякі дзейнічалі ў духу Канстытуцыі 3-га мая 1791 года, якая ліквідавала Вялікае Княства Літоўскае і рабіла з яго адну з правінцый Польшчы, дзе дзяржаўнай рэлігіяй мела быць рыма-каталіцкая, а мова — польская. Як піша польскі гісторык Уладзіслаў Вяльгорскі: «Толькі што закончыўся дня 22 кастрычніка 1791 г. працэс паступовага збліжэння двух дзяржаў, распачаты актам Крэўскім, падпісаным праз Ягайлу 14 жніўня 1385 г. Стварылася Рэч Паспалітая «Абаіх Народаў» маючыя жыць у аднолькавай сістэме дзяржаўнай. Справа, аб каторай мова, трывала 400 гадоў». («Польска і Літва»,— Лондан, 1947 г.с. 170).

Так, што Беларусь, Літва і Украіна не мелі ніякай надзеі на адраджэнне сваёй культурнай спадчыны, якою яны карысталіся ў Вялікім Княстве Літоўскім да часу стварэння Рэчы Паспалітай, або падпісання Люблінскай уніі ў 1569 годзе.

Толькі на пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя сярод рэвалюцыйнай моладзі беларускіх студэнтаў можна было пачуць больш цвёрозы голас за аўтаномію Беларусі, але аб гэтым наступным разам.

**Юры ВЕСЯЛОЎСКІ.**
**(«Голас часу», № 10(1). Студзень—люты 1991 г. Лондон).**

* Друкуецца згодна з нормамі сучаснага правапісу.

## МОЎНАЯ АФЁРА

Давайце ўсе разам праскланяем займеннік «ён».

Н.— *ён*, Р.— *яго*, Д.— *яму*, В.— *яго*, Т. — *ім*, М.— *аб ім, пры ім, па ім.*

Як вы думаеце, навошта мы гэты агарод гародзім?

Шчыра прызнаюся — хачу выкрыць адну моўную афёру.

Многія нашы выданні апошнім часам пачалі пісаць: *па чорнаму тратуару, па блакітнаму полю, па зялёнаму дывану, па пятаму пытанню.*

Што ж тут адбываецца: склон месны, а канчаткі — ***аму (-яму)*** давальнага склону. Павінна было б быць: *па чорным тратуары, па блакітным полі, па зялёным дыване, па пятым пытанні.*

Аб гэтым сведчыць скланенне займенніка «ён» у месным склоне. Згадаем яшчэ раз: *аб ім, пры ім, па ім.* Інакш мы павінны былі б пісаць і гаварыць, напрыклад, ***сумую па яму.*** Але мы так ніколі не гаварылі і не пісалі. Мы гаворым і пішам: ***сумую па ім, думаю аб ім.*** Гэта форма меснага склону.

Такі ж канчатак павінен быць і ва ўсіх іншых спалучэннях з прыназоўнікам ***па: па блакітным небе, па белым снезе*** і г. д.

Займеннік «ён», такім чынам, у форме меснага склону настойліва кліча вярнуць прыметнікам і назоўнікам у спалучэнні з прыназоўнікам ***па*** адпаведныя гэтаму склону канчаткі.

То ці пачуем гэты кліч?

### ЗЗАДУ

«Канікулы засталіся **ззаду».** «Маладосць засталася **ззаду».** Учытайцеся ў гэтыя сказы. Удумайцеся ў іх... Ці адчулі: не вельмі смачна гучаць гэтыя выразы. Сапраўды, падумайце, як гэта канікулы ці маладосць могуць застацца ззаду? Ці прыгожа?

Пэўна, што не. А хіба не лепш сказаць: «Мінулі канікулы. Прайшла маладосць». Дык не — канікулы абавязкова павінны «застацца **ззаду».**

Адкуль гэта ідзе? З калькі, з перакладу рускага слова «позади». Чуеце — «позади», а не «сзади». А гэта вялікая розніца.

Як бачыце, што добра ў адной мове, то не зусім добра ў іншай. Можа, падумаеце, што гэтыя прыклады мы прыдумалі самі. Калі ласка, цытуем з газет: «Вялікая Расія, а адступаць няма куды. Ззаду Масква». Вядомыя словы палітрука Васіля Клачкова мы працытавалі з «Вячэрняга Мінска».

Ці яшчэ — таксама з «Вячэрняга Мінска»... «Ад берага Дуная, пакінуўшы ззаду будынак славацкай нацыянальнай галерэі, выходжу да светлага чатырохпавярховага «будынка»... А гэта са «Звязды»:

— Дзе ваш муж?

— Не ведаю. Дзесьці там, у Кіравакане. Ён мяне праводзіў і застаўся.

— Не хвалюйцеся. Галоўнае — жывы. Самае страшнае ўжо ззаду.

А як, на вашу думку, больш дакладна можна перадаць гэтае «ззаду» ў згаданых тут прыкладах?

### КУДЫ Ж ПРАПАДАЕ НАША дзь?

Дзіўныя пераўтварэнні адбываюцца з нашымі прозвішчамі пры перакладзе на рускую мову.

Згадаем колькі з іх, на гэты раз толькі тыя, якія пачынаюцца з дзь ці маюць у сабе гэтае дзь. *Дзядзюля, Дзяркач, Дзявочка, Дзюба, Дзяшкевіч, Дзешкавец, Дзяга, Дзямчук, Дзятлік...*

Ну, і гэтак далей. Пры перакладзе на рускую мову ўсе гэтыя прозвішчы набываюць такое напісанне.

*Дедюля, Деркач, Девочка* (ужо не Дзявочка, а Девочка), *Дюба, Дяга, Демчук, Дятлик.*

Але параўнайце, прыглядзьцеся. Не толькі лінгвіст, але і кожны юрыст скажа, што гэта далёка неадэкватныя прозвішчы. Юрыдычныя законы гавораць, што змена адной толькі літары ў прозвішчы прыносіць вялікія юрыдычныя турботы. А тут зусім знікае літара, нават не літара, а разбурaецца цэлы гук. І хоць бы што.

Нездарма ж прозвішча вядомага чэкіста Дзяржынскага і па-руску, і па-беларуску, і па-турэцку, і па-японску будзе толькі Дзяржынскі. Куды ж прападае наша дзь?

Між іншым, у мінулым стагоддзі рускія пісьмавадзіцелі паслядоўна перадавалі ў беларускіх прозвішчах на пісьме па-руску наша дзь. Спрабуе трымацца гэтага правіла і вядомы наш даследчык А. Мальдзіс. Рускамоўная газета «На страже Октября» захавала ў яго прозвішчы гэтае дзь. Маем — Адам Мальдзис (13.IV.1990). Але пакуль гэтая з'ява як выключэнне.

Дык куды ж прападае наш такі зычны гук дзь?

## І смех і грэх

СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ І ВЕРШЫ Святланы МАРЧАНКА.



Уладзімір ШЫЦІК

*Фантастыка? Але.*
*Вось-вось адкрые Шыцік*
*Планету «Аля Шыцік»*
*І вокам не міргне.*







Васіль БЫКАЎ

Нам вядомы «Знак бяды»,
А дасведчаным куды,
З кім павесці сёння бой,
Каб не знацца больш з бядой?

*Пётр НЕЗНАКОМАЎ* (Балгарыя)

## АНТЫЧНЫЯ ГІСТОРЫІ

### Дыяген і аптымізм

Аднойчы раніцай Дыяген выпаўз са сваёй аднапакаёвай бочкі, сеў на зямлю каля яе, каб пагрэць на сонцы сваё знясіленае постам і бяссонніцай цела і праветрыць сваю латаную-пералатаную хламіду.

Міма прайшла група багата апранутых, гаманкіх і ўкормленых маладых людзей. Пазнаўшы Дыягена, адзін звярнуўся да яго:

— Настаўнік, мы хочам спытацца ў цябе пра штосьці. Але зробім гэта, калі ты паабяцаеш сказаць праўду.

Дыяген падняў галаву, падазрона паглядзеў на маладых самаўпэўненых людзей.

— Пытайцеся! — ціха сказаў ён. — А наконт праўды, дык яна ж адносная. А той, хто часта карыстаецца ёю, толькі шкодзіць сабе. І ўсё ж, пытайцеся!

— Чаму ты, Дыяген, маючы такія заслугі і славу не толькі ў нас, але і на чужыне, жывеш у такой струхлелай бочцы, маеш толькі адну ўшчэнт зношаную хламіду і адмаўляешся ад усіх жыццёвых даброт?

— Ты не першы пытаешся, — адказаў Дыяген. — Я жыву гэтак дзеля таго, каб усё кепскае, што можа здарыцца са мною заўтра, не было горшым за тое, што маю сёння. Гэта дае мне пастаянны аптымізм і надзею. А хто раскашуе ў багацці, і ўдзень і ўначы баіцца заўтрашняга дня, баіцца згубіць тое, што мае.

Маладыя людзі на імгненне задумаліся. Імгненне было хуткацечным. Малады чалавек, які задаваў пытанне, паглядзеў на старога Дыягена са шкадаваннем і пагардай.

— Глупства, — сказаў ён.

І яго сябры зарагаталі. Ніхто з іх не збіраўся браць прыклад з Дыягена. Лепш у цяпле дрыжаць за свой заўтрашні дзень, чым дрыжаць ад сцюжы сёння.

Што Дыягенам ніхто з іх не стане, было відавочна...

### Пракруст і яго метад

Як заўсёды, вядомы Пракруст сустракаў у гэты вечар свайго чарговага госця. Шчодра накарміўшы і напаіўшы яго, гаспадар падрыхтаваў яму пасцель на ноч і паклаў на сваё, таксама вядомае, пракрустава ложа. На гэты раз госць быў даўжэйшым за ложа. Каб давесці яго да наміналу, Пракруст адным узмахам мяча адсёк галаву. Пасля гэтага госць умясціўся на ложы. Пракруст накрыў яго цёплай коўдрай, каб той не прастудзіўся, пажадаў добрай ночы і пайшоў спаць.

Раніцай Пракруст прымаў дэлегацыю літаратурных крытыкаў з розных антычных краін.

Дэлегацыя сабралася каля ложа, на якім яшчэ адпачываў учарашні госць, і Пракруст дэталёва азнаёміў крытыкаў са сваім метадам.

— Ну, а калі госць будзе не даўжэйшым за ложа, а карацейшым? Што вы тады робіце? — пацікавіліся крытыкі.

— Тады я яго выцягваю, — растлумачыў Пракруст. — Цягну да той меры, пакуль ён не ўкладзецца ў стандарт. Так што ні высунуцца з майго ложа, ні згубіцца ў ім нікому не ўдаецца. Калі хто-небудзь з вас хоча паспрабаваць на сабе, як гэта атрымліваецца, калі ласка, лажыцеся.

Ахвотнікаў не знайшлося. Госці заспяшаліся ў свае антычныя краіны. Ім карцела як мага хутчэй выкарыстаць метад Пракруста ў сваёй літаратурна-крытычнай практыцы.

З таго часу ў антычнай літаратуры ўсё стала на свае месца. Калі з'яўляўся дзе-небудзь талент, які не ўкладваўся ў стандарт, выпіраў з яго, яму крытыкі адсякалі галаву. Калі ж нехта не дасягаў стандарту, яго выцягвалі.

Пераклала на беларускую мову Любоў ЛАМЕКА.

### Пытанні да тэлевізара

Калі па першай праграме пацяшаюць ды скачуць, знычаць недзе зноў паміраюць ці плачуць?

Якую ўключаць праграму, каб даведацца, што сталася з Харчовай?

Калі не ўсе дома — сапсаваўся апарат ці толькі памяняліся праграмы?

Для Беларускага тэлебачання Закон аб мовах пісаны ці тэлефанаваны?

Л. М.




## НАДРУКАВАНА ПА-БЕЛАРУСКУ

**Выходзіць у І квартале 1992 г. кніга кандыдата тэхнічных навук П. М. Біча «Жалезабетон з пазіцый супраціўлення матэрыялаў»(выдавецтва «Навука і тэхніка»).**

**Гэта першае навукова-тэхнічнае выданне на беларускай мове. Жыхары за межамі рэспублікі могуць заказаць яе ў мінскім магазіне № 31 «Кніга-поштай» (220068, Мінск, в. Чыгуначная, 27/4).**

**Змяшчаем малюнак з вокладкі кнігі.**






Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2441. Індэкс 74975.